# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№39 (2545) 25 верасня 1997 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ

## БЕЛАРУСЬ — ІНДЫЯ: АДЛЕГЛАСЦЬ — НЕ ПЕРАШКОДА



**Сапраўды, тысячакіламетровыя адлегласці не перашкода для шчырага сяброўства і плённага партнёрства, калі прысутнічае галоўнае — добрая воля і жаданне супрацоўнічаць. Менавіта такая выснова з'яўляецца пасля гутаркі з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Індыя ў Рэспубліках Беларусь і Літва спадарыняй Мадху БХАДУРЫ, якая ветліва пагадзілася адказаць на некаторыя пытанні "Голасу Радзімы".**

*— Індыя — вялікая дзяржава, адзін з сусветных палітычных лідэраў, краіна з старажытнай, непаўторнай культурай. На Беларусі гэта ведаюць і шануюць. Але на побытавым, матэрыяльным узроўні ў многіх людзей Індыя, у першую чаргу, асацыіруецца з такімі рэчамі, як індыйскае кіно, індыйскі чай, крыху менш, але вядомыя індыйскія лякарствы і ўпрыгажэнні. Вядома, гэта занадта*

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*ПІНСКУ 900 ГАДОЎ*



Новая забудова ў Пінску па вуліцы Горкага. На пярэднім плане — капліца ў гонар воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Фота Рамана КАБЯКА.

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*

ДАЖЫНКІ-97



**Дажынкі — новая традыцыя, якая спраўляецца цяпер у Беларусі не на вясковым, а на дзяржаўным узроўні. Сёлетнія адбыліся 13—14 верасня ў Мастах на Гродзеншчыне. Негледзячы на тое, што ладзіліся яны ўсяго толькі другі год, прайшлі пышна, мнагалюдна, прыгожа.**

**Прэзідэнт А. Лукашэнка застаўся задаволены святам, ён падзякаваў працаўнікам вёскі за руплівасць, гаспадарлівасць, вернасць зямлі. Нягледзячы на цяжкае і несприяльнае надвор'е — халодная вясна, дажджлівае лета, ураган, — сёлетні ўраджай даў на паўмільёна тон больш збожжа, чым леташні. Паводле папярэдніх вынікаў, прадукцыйнасць збожжавага гектара ў рэспубліцы перавысіла 27 цэнтнераў, валавы збор вырас больш чым на 10 працэнтаў. Такія вынікі дазволяць Беларусі адмовіцца ад многіх відаў імпартнага харчавання, скараціць закупкі збожжа за мяжой.**

**НА ЗДЫМКУ: на дажынках у Мастах.**

ВОДАР РАДЗІМЫ ЗАЎСЁДЫ Ў СЭРЦЫ

## МАЯ ВЁСКА

"Мой родны кут, як ты мне міл, забыць цябе не маю сілы" — такімі радкамі, якія зрабіліся класічнымі і якія ведае, напэўна, кожны школьнік, апеў вялікі беларускі паэт Якуб Колас любоў да сваёй радзімы. Але як кожны вялікі паэт, ён выказаў гэтымі словамі не толькі свае думкі, а думкі ўсіх людзей, магчыма, кожнага чалавека. Нездарма ў народзе склалася прымаўка — дарагі той куток, дзе рэзалі пупок — гэта значыць месца, дзе чалавек нарадзіўся. Тою пупавінаю ён звязаны з ім на ўсё жыццё, і куды б ні закінуў чалавека лёс, свой родны куток ён будзе ўспамінаць з любасцю, яго будзе туды вабіць, клікаць.

Так вабіць, кліча мяне і мой куток — родная вёска Нізок, што на Уздзеншчыне, і я рада кожнай нагодзе, а можа, і без пільнай нагоды, каб там пабываць. Вось і нядаўна зноў паклікала мяне сэрца да родных палеткаў, да роднай хаты, хоць на дзвярах яе цяпер вісіць замок, а вакол яе цішыня і запусценне.

Дарога ў Нізок... Гэты непаўторны пах роднай зямлі, у кожную пару года іншы і разам з тым свой, непаўторны, асаблівы, уласцівы толькі гэтаму кутку. І палі, узгоркі, узлескі, стрэхі хат — зноў непаўторнае, толькі Нізоўскае.

Я спыняюся, не даходзячы да вёскі. Тут нельга не спыніцца. У засені таполяў і бяроз стаіць абеліск. На ім выбіта шэсцьдзесят сем прозвішчаў. Гэта прозвішчы жыхароў Нізка, што загінулі ў час вайны. Сярод іх такія знаёмыя — Атраховіч, Трус... Гэта з родаў Кандрата Крапівы, Паўлюка Труса, якія нарадзіліся ў Нізку і праславілі невялікую вёску. Цішыня. Толькі таполі шапацяць над іхняй памяццю. Але кожнага 9 Мая тут збіраюцца людзі. Праходзіць мітынг. Жыхары вёскі аддаюць даніну тым, хто аддаў свае жыцці за тое, каб жылі іншыя.

І ўжо блізка, як падаць рукою, сама вёска. На краі белы мураваны дамок — вясковая крама. Тут шмат розных прадуктаў і тавараў, патрэбных чалавеку. За прылаўкам — сімпатычная маладая жанчына. Аказваецца, яна дачка пляменніцы Паўлюка Труса...

А вось і сама вёска. Вельмі цікавая яе забудова. Хаты стаяць з аднаго боку вуліцы, а гаспадарчыя пабудовы — хлявы, гумны — з другога. Такі характар яна носіць яшчэ з 1557 года, калі ў час зямельнай рэформы былі ўведзены так званы "Устаў на валокі". Гэткая забудова вёскі захавалася ў Беларусі, здаецца, толькі ў Нізку.

То далёкая гісторыя, а больш блізкая — падмурак хаты, у якой жыў Паўлюк Трус, сама хата не захавалася. Гэта справа. А злева — хата пляменніцы Кандрата Крапівы, якую славуты пісьменнік дапамагаў будаваць, тая, у якой нарадзіўся сам, згарэла ў час вайны.

Я добра памятаю ваколіцы Нізка, памятаю шырокія зялёныя паплавы, на якіх ляжалі, адбельваліся доўгія стужкі палотнаў,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*МЫ І СВЕТ*

### ПРАВЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ БЕЛАРУСІ ПРЫЗНАНЫ

**8 верасня ў Каіры на пасяджэнні Выканаўчага камітэта Міжпарламенцкага саюза (МПС) было прынята рашэнне рэкамендаваць савету МПС аднавіць паўнамоцтвы парламенцкай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь.**

**11 верасня на пасяджэнні савета ўсе 135 дзяржаў-членаў выказаліся за ўзнаўленне паўнамоцтваў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

**На канферэнцыі МПС падняты Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь і праведзена акрэдытацыя беларускай парламенцкай дэлегацыі ў складзе дэпутатаў Нацыянальнага сходу Івана Пашкевіча і Леаніда Глухоўскага.**

*ПРЭЗЕНТАЦЫЯ НА МАЗе*



**На Мінскім аўтазаводзе 12 верасня адбылося прадстаўленне двух новых аўтамабіляў. Адзін з іх — МАЗ-54421 поўнасцю выкананы на камплектуючых дэталях МАЗа, але з рухавіком фірмы MAN. Другі — вынік сумеснай гадавай работы МАЗа і нямецкай аўтамабільнай фірмы MAN. Плануецца выпуск доследнай партыі з 15 аўтамабіляў, якія пройдуць усебаковыя выпрабаванні. Зроблены першы крок да стварэння сумеснага беларуска-германскага аўтамабільнага прадпрыемства.**

**З новымі ўзорамі машын знаёміліся віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Валерый Кокараў і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Готфрыд Альбрэхт.**

**НА ЗДЫМКУ: Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Готфрыд АЛЬБРЭХТ у кабіне новай машыны.**

*ХРЫСЦІЯНСКАЯ СВЯТЫНЯ*

### КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ АДНОЎЛЕНЫ

**18 верасня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка сустрэўся з Яго Высокапраасвяшчэнствам Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам.**

**Уладыка Філарэт прадставіў кіраўніку дзяржавы адноўлены пасля страты ў гады другой сусветнай вайны Крыж Прападобнай Ефрасінні Полацкай, які, па заключэнню спецыялістаў, адпавядае арыгіналу.**

**У час сустрэчы А. Лукашэнка адзначыў, што ініцыятыва Уладыкі Філарэта і Беларускага экзархата па аднаўленню Крыжа Прападобнай Ефрасінні Полацкай, што ўзнікла ў год тысячагоддзя праваслаўя на Беларусі, атрымала сваё рэальнае ўвасабленне. Адноўлены Крыж Прападобнай Ефрасінні Полацкай з'яўляецца гістарычнай каштоўнасцю не толькі для беларускага народа і дзяржавы, але і для ўсяго хрысціянскага свету.**

**Уладыка Філарэт падкрэсліў, што ён звярнуўся з просьбай да А. Лукашэнкі аб аказанні садзейнічання ў аднаўленні Крыжа Прападобнай Ефрасінні Полацкай адразу пасля яго выбрання на пасаду кіраўніка дзяржавы. Яго Высокапраасвяшчэнства выказаў глыбокую ўдзячнасць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь за ўдзел у аднаўленні вялікай святыні, якая, як вядома, да 1917 года па значнасці займала адно з першых месцаў у праваслаўным свеце.**

*«ФОРД ЮНІОН»*

### ПРАДАДЗЕНЫ ПЕРШЫЯ АЎТАМАБІЛІ

**Сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства "Форд Юніон" адправіла расійскім дылерам першую партыю аўтамабіляў, сабраных у Абчаку. Гэта пяць мікраўтобусаў "Форд Транзіт". Кошт такой машыны на расійскім рынку вызначаны ў 17 950 долараў ЗША.**

**Як паведамілі ў прэс-службе прадпрыемства, ужо паступілі заяўкі на набыццё аўтамабіляў, сабраных у Абчаку, і ад беларускіх пакупнікоў. Усе іх заяўкі будуць задаволены ў бліжэйшы час, таму што ў жніўні на заводзе сабрана 120 машын "Форд Транзіт" і 40 — "Форд Эскорт". Эксперты кампаніі "Форд", якія пабывалі нядаўна на прадпрыемстве, засталіся задаволенымі якасцю работ і тэхнічнай надзейнасцю выпускаемых у Беларусі аўтамабіляў.**

*ДЫЯСПАРА*

### АБАРАНІЦЬ МАЛДАЎСКАГА БЕЛАРУСА

**Беларусь і Малдова падпісалі міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве па забеспячэнню правоў нацыянальных меншасцей. Размова ідзе перш за ўсё пра дапамогу этнічным беларусам у Малдове і этнічным малдаванам, што жывуць у нашай рэспубліцы. У Малдове пражывае больш чым 20 тысяч этнічных беларусаў.**

**Падпісаны ў Кішынёве дакумент заклікаегы забяспечыць узаемную абарону правоў нацменшасцей. Пасля ратыфікацыі дагавора будзе створана двухбаковая камісія, якая зоймецца выпрацоўкай канкрэтных праграм дапамогі суайчыннікам, што знаходзяцца за мяжой.**

**Падобныя дакументы ў бліжэйшай будучыні Беларусь мае намер падпісаць з Украінай і Літвой.**

*"... Што датычыцца асабіста мяне, то я — беларуская пісьменніца, бацька мой — беларус, а маці — украінка... Але не ў гэтым справа. Я больш прытрымліваюся салжаніцынскай ідэі — ідэі славянскага адзінства... Але гэта зусім не значыць, што я за тое, што робіць наш Прэзідэнт, калі зноў з'яўляюцца рускія школы, забіраюць будынак беларускага ліцэя і забываюць пра інтарэсы цэлай нацыі... А наконт беларускай ідэі ў тым выглядзе, у якім яна развівалася ў нас... Для мяне з самага пачатку было відавочна, што гэты рух выраджаецца ў сектанцтва. І перш за ўсё таму, што пачала разыгрывацца карта антырускасці, а антырускасці няма ў беларускім народзе! Потым пачалі з'яўляцца артыкулы, у якіх Ленін ужо прадстаўляўся як хворы сіфілітык... і гэтак далей. Я проста не магла прыняць гэтага фанатызму. Лічу, што шлях нацыянальнай ідэі павінен быць іншым: спачатку мы павінны былі заняцца дэмакратычнымі пераўтварэннямі, а потым ужо спакваля гаварыць пра нацыянальныя ідэі... Гэта зусім не значыць, што я — антынацыянальны чалавек, часта я думаю, мы — драматычная нацыя, і ўсе нашыя беды — ва ўласным народзе. Мне не падабаецца, калі беларускі народ падаюць як нейкую міфічную істоту, — давайце ж вылазіць са сваіх акадэмій і разглядаць яго! Што гэта за народ і чаго ён хоча? У нас жа ўсё наадварот — і ў выніку, падабаецца нам тое ці не, — з народам гаворыць толькі Лукашэнка, а той яго слухае... Таму зараз я магу з упэўненасцю сказаць: нішто столькі шкоды не прынесла нацыянальнай ідэі, як фанатызм і сектанцтва Зянона Пазняка... Бо ў народзе гэтага фанатызму няма!"*

*(Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, з інтэрв'ю газеце "Літаратура і мастацтва").*

*РЫНАК*

### «ВІЦЯЗЬ» НЕ ГОРШЫ ЗА «ФІЛІПС»

**Значных поспехаў у мадэрнізацыі прадукцыі, набліжэнні яе да сусветных стандартаў дасягнулі беларускія тэлевізіёншчыкі. У жніўні на прылаўках магазінаў з'явіліся новыя мадэлі тэлевізараў "Гарызонт" (з мікрапрацэсарам і аўтаматычнай настройкай). У верасні на серыйную вытворчасць будуць пастаўлены тэлевізары з кінескопам 63 сантыметры па дыяганалі, а к канцу года кіраўніцтва прадпрыемства мае намер запусціць першую партыю суперэлітных тэлевізараў з 72 сантыметрамі па дыяганалі, драўляным корпусам і бясшумнай настройкай.**

**А па выніках апытання незалежнага расійскага часопіса "Спрос" тэлевізар "Віцязь-37" ТЦ-501 увайшоў у чацвёрку лепшых мадэлей сярод малагабарытных тэлевізараў, апярэдзіўшы "ДЭУ" і "Філіпс".**

*ПАМЯЦЬ*

**На цэнтральнай сядзібе саўгаса "Бярозаўскі" Бярозаўскага раёна — вёска Кабакі — на сродкі гаспадаркі ўзведзены помнік-мемарыял аднавяскоўцам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Трыццаць шэсць жыхароў вёскі не вярнуліся з вайны. Нават месца пахавання многіх з іх ніхто не ведае. Да гэтага часу жывуць у Кабаках салдацкія ўдовы. Імёны іх загінуўшых мужоў высечаны на мармуровых плітах мемарыяла. Каля мемарыяла ўзведзены і сімвалічныя надмагільныя помнікі. Сюды цяпер амаль штодзённа прыходзяць салдацкія ўдовы Юлія МАЗЮК і Алена ЗУБІЛЕВІЧ, імёны іх мужоў, якія не вярнуліся з вайны, напісаны на гэтых плітах (на здымку).**



*АД НЯДОЛІ*

### ШЭФСТВА НАД ЗУБРАМІ

**Двух зуброў, якія жывуць у вальерах Белавежскай пушчы, узялі пад сваю апеку прадпрымальнікі.**

**Па словах намесніка дырэктара нацыянальнага парку па навуковай працы Вячаслава Сімакова, утрыманне толькі аднаго зубра штогод каштуе 12 мільёнаў рублёў. З-за недахопу сродкаў работнікам Белавежскай пушчы не заставалася нічога іншага, як звярнуцца па дапамогу да забяспечаных суграмадзян.**

**Першым на просьбу адгукнуўся брэсцкі прадпрымальнік Сяргей Якубоўскі, які ўзяў на ўтрыманне аднаго са старэйшых зуброў пушчы. Прадпрымальніку з Кобрына Віктару Грабаруку даручана апякаць зубраня, што нядаўна нарадзілася і якое парламентарыі Беларусі і Расіі, што гасцілі ў пушчы, назвалі Саюзам.**

*А. МЯДЗВЕДЗЮ — 60*



**16 верасня Аляксандр Мядзведзь, славуты беларускі спартсмен, заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь і СССР, заслужаны дзеяч фізічнай культуры Рэспублікі Беларусь адзначыў сваё 60-годдзе. Юбілей таленавітага спартсмена, цяпер віцэ-прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь, прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі А. Мядзведзя адзначала ўся краіна.**

**НА ЗДЫМКУ: інтэрв'ю праслаўленага спартсмена.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

БЕЛАРУСЬ мае намер закупіць некалькі вучэбных самалётаў для авіяцыйнага факультэта Ваеннай акадэміі.

БАРЫСАЎСКІ танкарамонтны завод пачаў выпускаць самаходныя чыгуначныя платформы — "дрызіны".

ПАДПІСАНЫ мемарандум аб узаемаразуменні паміж Акадэміяй навук Беларусі і Нямецкім навукова-даследчым таварыствам.

У ГОМЕЛІ прайшоў першы Міжнародны фестываль харэграфіі, прымеркаваны да 200-годдзя унікальнага гомельскага парку культуры і адпачынку і 855-годдзя горада.

СТАТЫСТЫКА падлічыла, што кожны чацвёрты жыхар Беларусі — пенсіянер.

МАЛАДЫЯ воіны прынялі ўдзел у вечарыне, прысвечанай 115-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа, якая адбылася ў Мінску, у Цэнтральным Доме афіцэраў.

ПЕРШЫЯ самаходныя камбайны "Палессе" і КСК-100 сышлі з канвеера сумеснага беларуска-ўкраінскага прадпрыемства па зборцы гомельскай кормаўборачнай тэхнікі.

АДРАЗУ шэсць гатункаў прадукцыі акцыянернага таварыства "Лідскі піўзавод" адзначаны залатымі медалямі на міжнароднай выставе-кірмашы ў Маскве.

*НОВЫЯ ТРАДЫЦЫІ*



**Асвячэнне транспартнай тэхнікі стала ў Нясвіжы штогадовай традыцыяй. Дзесяткі людзей з веласіпедамі і аўтамабілямі збірае цырымонія, якую праводзяць мясцовы ксёндз Генрых АКАЛАТОВІЧ і яго памочнікі. Выходзіць, не толькі Дзяржаўтаінспекцыя клапоціцца пра бяспеку руху.**

*480 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КНІГАДРУКАВАННЮ*

# ДОБРЫ ПАЧАТАК

Як вядома, бягучы год асаблівы для беларускай культуры. Спаўняецца 480 гадоў беларускаму кнігадрукаванню. 6 жніўня 1517 года Францішак Скарына выдаў у чэшскай Празе сваю першую кніжку "Псалтыр", а потым усяго 22 кнігі Бібліі. Урачыстае святкаванне, як і належыць, было распачата 5 верасня ў Празе. У 10 гадзін раніцы адбылося адкрыццё выставы, прысвечанай дзейнасці Скарыны і гісторыі беларускай кнігі ў старажытным будынку Клеменцінума. Клеменцінум — Нацыянальная бібліятэка Чэхіі, адна са старэйшых у Еўропе, месціцца ў самым цэнтры Прагі, каля знакамітага Карлава моста. Адной з яе структурных частак з'яўляецца Славянская бібліятэка, створаная пасля другой сусветнай вайны на аснове рускай, украінскай і беларускай бібліятэкаў, сабраных усходнеславянскай эміграцыяй у Празе. Менавіта Славянская бібліятэка была арганізатарам свята. Ініцыятыва зыходзіла ад дырэктара бібліятэкі доктара Мілены Клімавай і навуковага супрацоўніка, вядомай беларусісткі і даследчыцы спадчыны Скарыны доктара Францішкі Сокалавай. Удзел у падрыхтоўцы мерапрыемстваў прыняла і беларуская суполка ў Празе "Скарына", найбольш яе старшыня Юрка Станкевіч, сын вядомага беларускага дзеяча Янкі Станкевіча. Ягоны брат Вячка Станкевіч узначальвае беларускую рэдакцыю радыё "Свабода". Абодва браты, маці якіх чэшка па паходжанню, знаходзяцца зараз у Празе і актыўна прадаўжаюць беларускую справу, распачатую бацькамі.

Выстава адкрылася гімнам "Магутны Божа". Уступнае слова зрабіў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі. Затым з прывітальным словам выступіў пасол Рэспублікі Беларусь у Чэхіі Уладзімір Бельскі.

Слова пра Скарыну сказаў дырэктар Славянскага інстытута ў Празе прафесар Мешчэн. Імпрэзу вяла і выступіла доктар Францішка Сокалава. Прысутнічаў шырока вядомы ў Беларусі даследчык беларускай культуры ў Чэхіі прафесар Вацлаў Жыдліцкі. У зале гучала музыка і чэшскія артысты прыгожа чыталі тэксты са Скарынавай Бібліі. Са змястоўнай прапановай выступіў і Юрка Станкевіч.

У другой палове дня святкаванне прадоўжылася правядзеннем навуковай канферэнцыі. Да ўдзелу ў ёй былі запрошаны навукоўцы з Беларусі, ЗША, Расіі, Чэхіі, Польшчы. Арганізатарамі прыезду дэлегацыі ад Беларусі былі, найперш, Навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Пасля змястоўнага ўступнага слова Францішкі Сокалавай з дакладамі выступілі скарыназнаўцы — Вячаслаў Чамярыцкі з Беларускай акадэміі навук і прафесар Уладзімір Неміроўскі з Масквы, а таксама Уладзімір Кароткі, дацэнт Беларускага дзяржуніверсітэта, Вальдэмар Дэлуга з Гданьска (Польшча), Сяргей Шупа, даследчык з Вільні, Васіль Шайкоў з Полацкага універсітэта, доктар Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (ЗША), Галіна Ладзісава, дырэктар Полацкага музея гісторыі беларускага друку, Тацццяна Рошчына з Беларускай нацыянальнай бібліятэкі. На канферэнцыі прысутнічалі і бралі ўдзел у дыскусіі супрацоўнікі Славянскага інстытута ў Празе, навуковец з Нью-Йорка Зора Кіпель, а таксама вядомы гісторык з Гданьска Алена Глагоўская і ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" — Ганна Сурмач.

Канферэнцыя прайшла канструктыўна і плённа. У дыскусіі разгарнулася спрэчка аб вяртанні ў Беларусь арыгіналаў кніг Скарыны, аб аднаўленні культурнага і духоўнага асяродка ў Полацку — месцы паходжання Скарыны і інш.

Дэлегацыя з Беларусі сардэчна падзякавала арганізатарам канферэнцыі з чэшскага боку за істотную дапамогу беларусам. Скарына аб'ядноўвае нашы два народы — слаўны Полацк нарадзіў асветніка, а старажытная Прага не толькі стала тым месцам, дзе ён здзейсніў найважнейшую справу жыцця, але і прыняла яго на вечны спачын.

Год таму ў Празе, на Градчанах, у прыгожым куточку — скверы на Брусніцах, быў устаноўлены помнік Францішку Скарыну, а ў двары Клеменцінума, на старажытных мурах, устаноўлена мемарыяльная Скарынава дошка.

Сёлета, 30 кастрычніка, у Празе пройдзе завяршальная імпрэза святкавання юбілею беларускага кнігадрукавання. Галоўныя ўрачыстасці будуць адбывацца на адной з пляцовак у сэрцы Прагі — на Пражскім градзе, а таксама каля Скарынавых помніка і дошкі. Свята будуць праводзіць яшчэ два гарады Чэхіі — Табар і Чэшскі Крэмлуў.

Асноўным арганізатарам гэтых мерапрыемстваў з'яўляецца пасольства Беларусі ў Чэхіі. Трэба адзначыць, што беларуская дыпламатычная служба ў Празе вызначаецца сваёй актыўнай працаю ў галіне прапаганды беларускай культуры ў свеце. Менавіта пасольства зрабіла ў мінулым годзе многа дзеля таго, каб увекавечыць у Празе памяць слаўнага сына зямлі беларускай.

Распачатае ў Празе свята прадоўжылася ў самой Беларусі ў Нясвіжы, Полацку. Эстафета святкавання з Прагі перадалася на радзіму Скарыны і зноў вернецца назад. Святочны шлях паўтарае жыццёвы шлях Скарыны і знітоўвае ў адзіны сусвет дарагія яго сэрцу мясціны — дзе быў пачатак, узлёт духу і творчай энергіі, урэшце, завяршэнне яго зямнога побыту. Такія волаты, як Францішак Скарына, прыходзяць у наш свет не часта. Яны высвечваюць шлях свайго народа ў будучыню. Але мы доўгі час не ішлі па гэтаму шляху. І толькі ў апошняе дзесяцігоддзе звярнуліся да Скарыны: спасцігаем, святкуем, ушаноўваем. Патрэбна яшчэ навучыцца жыць па канонах яго мудрасці.

**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня рады ЗБС "Бацькаўшчына".**

# МАЯ ВЁСКА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

што ткаліся ў хатах. Памятаю рэчку Усу, якая цякла ў вянку размаітых траў, кустарнікаў і красак. На гэту рэчку мой дзядзька, родны брат маёй мамы Алесь Махнач, хадзіў вудзіць рыбу, а цётка Маня, яго жонка, сварылася на яго, бо сядзець з вудаю на беразе ракі лічылася гультайствам. Дзе ж ты, рэчка Уса? Яе знішчылі меліяратары. Замест яе я ўбачыла высахлае рэчышча. Кажуць, што недзе далей яна захавалася, але там, дзе была некалі, каля вёскі, знікла. Па-мойму, людзі абыходзяцца з прыродаю, як дзеці з цацкамі. Дзецям карціць зламаць цацку, паглядзець, што там, усярэдзіне. Так і людзі з прыродаю. Карціць не перайначыць і паглядзець, што з таго выйдзе. Як правіла, выходзіць шкода.

А вось, на мой погляд, культурны цэнтр Нізка — яе школа. На ёй мемарыяльная дошка Кандрата Крапівы, устаноўленая да стагоддзя з дня яго нараджэння, аўтар — скульптар Уладзімір Лятун, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Месца дошкі зусім законнае — маленькі Кандрат хадзіў у гэтую школку, пазнаваў тут першую грамату.

Існуе Нізаўская школа з 1884 года. Першым настаўнікам у ёй быў вясковы жыхар Пятро Герасімовіч, які скончыў курс народнага вучылішча. Праз гэтую школу прайшло шмат нізаўскіх дзяцей, якія потым сталі пісьменнікамі, кандыдатамі і дактарамі навук, акадэмікамі, настаўнікамі і ўрачамі, мастакамі і артыстамі.

Цікавая дэталь з гісторыі школы: у час вайны тут на некалькі дзён знайшоў прытулак легендарны генерал Дзмітрый Карбышаў з сваім спадарожнікам палкоўнікам Сухарэвічам. Рызыкуючы жыццём, яго тут прытуліў настаўнік Лычкоўскі.

Калі ў пару навучання заходзіш у школу, уражвае вялікая колькасць чаравічкаў, боцікаў, пантофлікаў, акуратна састаўленых у калідорчыку. Дзеці прыносяць з сабою тапачкі, каб не наносіць у класы бруду. У школе ідзе актыўны навучальны працэс. Усе настаўнікі — спецыялісты сваёй справы, вучні паказваюць добрыя веды на віктарынах і алімпіядах, многія паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Прыцягвае ўвагу і школьны музей, які называецца "Роднае слова" і ў які шмат сілы і старання ўклала настаўніца гісторыі Вольга Суткаленка. Ёй вельмі актыўна дапамагаў настаўнік французскай мовы Сяргей Армонік, дапамагаў і ўвесь настаўніцкі калектыў. Клапаціліся, дапамагалі знаходзіць сродкі для стварэння музея загадчыца аддзела культуры Уздзенскага райвыканкома Ганна Міхальчук, якая наогул вельмі шмат робіць для таго, каб не ачарсцвела душа чалавечая, каб не толькі аднаму хлебу радаваўся чалавек.

Уражвае культура, мастацкі густ, з якімі аформлены музей, яго філасофскі змест. Малюнкі на столі і ўздоўж сцен імкнуцца паказаць, як наогул у гісторыі ішоў працэс развіцця слова — ад біблейскага выказвання — і першым было слова — да сённяшняга дня. Афармляў музей, стварыў вельмі цікавыя фрэскі, малюнкі мастак, жыхар Уздзеншчыны — Уладзімір Курдзюкоў.

У музеі сабраны цікавыя экспанаты. Своеасаблівым адкрыццём для земляка можна лічыць факт, што ўступ да Бібліі на беларускай мове Сымон Будны напісаў на Уздзе, што наогул Уздзеншчыну можна лічыць адным з першых месцаў беларускага кнігадрукавання. На стэндах — узоры старажытнага пісьма, старонкі Іпацьеўскага летапісу, раздзелы са Статута Літоўскага, са "Слова аб палку Ігаравым".

А далей — экспазіцыі, прысвечаныя землякам. Адна з буйнейшых — нашаму славутаму земляку Кандрату Крапіве. Тут яго скульптурная выява, асабістыя рэчы, арыгінальныя старонкі часопіса "Раздавім фашысцкую гадзіну", які ў час вайны рэдагаваў Кандрат Кандратавіч, аўтографы рукапісаў яго баек, шмат фатаграфій, кнігі.

Побач стэнд, прысвечаны Паўлюку Трусу. І тут ёсць асабістыя рэчы, якія захавала родная сястра паэта Вера Адамаўна, паштоўкі, што дасылаліся Паўлюку Трусу і якія дасылаў сам паэт і, вядома, зноў кнігі, на жаль, не шмат напісаных за такое кароткае жыццё, але такіх, што засталіся ў гісторыі беларускай літаратуры.

Яшчэ адзін Трус — Анатоль Міхайлавіч, народны артыст Беларусі, працаваў у Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа. Таксама ўраджэнец Нізка. На стэндзе, прысвечаным артысту, яго фатаграфіі ў ролях — караля Ліра з аднайменнай п'есы У. Шэкспіра, Фірса ў "Вішнёвым садзе" А. Чэхава, Дзеда ў "Раскіданым гняздзе" Янкі Купалы.

Нарадзіла зямля нізаўская і мастакоў. Ушанаваны на стэндзе ў музеі жывапісец і графік Уладзімір Ткачоў. Шмат якія будынкі ва Уздзе ўпрыгожаны яго вітражамі. У музеі — падараваныя мастаком эцюды.

Кажуць, што ўздзенская зямля сама спявае, але не спявала б зямля, каб не спявалі на ёй людзі. Адзін з такіх аматараў песні — Павел Шыдлоўскі. І хоць нарадзіўся ён не ў Нізку, а побач з Нізкам, у вёсцы Прысынак, і яму тут, у школьным музеі, аказана пашана.

Не забытая ў музеі і старонка з гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, змешчаныя фатаграфіі Дзмітрыя Карбышава і настаўніка Лычкоўскага, таго, што ў час вайны даў прытулак вайскоўцам.

Музей часта наведваюць вучні навакольных вёсак, і не толькі навакольных. І вучні Нізаўскай школы ездзяць да суседзяў, і блізкіх, і не блізкіх — знаёмяцца з іншымі школьнымі музеямі.

Я наведала сваю вёску ў час, калі працягваліся яшчэ школьныя канікулы і ў самой школе і навокал не стаяла цішыня. Адрамантаваныя, чысценькія класы чакалі вучняў. Тут яшчэ пахла пабелкаю, фарбаю. Але скора школа загудзе, як вулей, і прыйдуць настаўнікі вучыць дзяцей добраму, светламу, сеяць зерні навукі.



І зноў я каля сваёй роднай хаты. Я памятаю яе — з маленькімі вокнамі, з земляною падлогаю, перад тым як падмятаць яе, пырскалі вадою, каб не ўздымалася пылу. У хаце былі вялікія доўгія сенцы, па сценах устаўленыя куфрамі з мукою, крупамі. Каб не разбіць у цёмных сенцах галавы, у дзвярах, што вялі ў жылую частку хаты, свяцілася маленькае круглае акенца. Вечарамі яно прапускала святло газнічкі. Дзіўлюся я сёння: як у такой маленькай хатцы месцілася вялікая сям'я маёй бабкі. Тры сыны, тры дачкі — гэта тыя, што выраслі ў дарослыя. І як дзіўна, што сёння хата зусім пустая. Прыязджае сюды, даглядае роднае гняздо толькі мая стрыечная сястра Іда Аляксандраўна Махнач. І хата, што стаіць побач з маёй роднаю, таксама пустуе, а некалі ж у ёй жыла вялікая сям'я, родзічы Алены Канстанцінаўны, жонкі Кандрата Крапівы.

Сёння ў Нізку 147 двароў, 311 жыхароў, з іх 130 пенсіянеры, сярод іх 15 інвалідаў, 13 удзельнікаў вайны. Школьнікі шэфствуюць над удзельнікамі вайны, прыходзяць у двары — каму дровы скласці, каму ваду наносіць, снег расчысціць, віншуюць са святамі. Кіруе такою падшэфнаю работаю настаўніца беларускай мовы Лілія Анатольеўна Алісіёнак.

Нізок уваходзіць у калгас, цэнтр якога ў вёсцы Прысынак. Калгас, на жаль, стратны, мае чатыры мільярды доўгу. Не так даўно купілі жатку ў крэдыт за мільярд рублёў, а яна праз два дні заламалася. Купілі яшчэ ў крэдыт два трактары.

Сярэдняя зарплата ў калгасніка, як паказвае статыстыка, 803 тысячы рублёў у месяц. Мяне заўсёды забаўляе гэта вось "у сярэднім". Конь і заяц "у сярэднім" важаць трыста кілаграмаў. Колькі ж набаўляецца вагі зайцу? Так і тут, нехта атрымлівае больш, нехта меней. Але нават гэта, "сярэдняя" зарплата на сённяшні дзень мізэрная, і тую затрымліваюць па некалькі месяцаў. Я спытала ў людзей: скажыце, а каб вось у калгаснікаў не было сваіх агародаў, сваёй гаспадаркі, ці маглі б яны жыць толькі на тое, што зарабляюць у калгасе?

— Што вы! — адказалі мне. — Ніколі!..

І я ўспомніла пасляваенны час, як ставілі калгаснікам "палачкі" за працадні, а потым на тыя "палачкі" нічога не давалі. Ці далёка адышлі мы ад той пары сёння?

Я аніяк не вінавачу калгаснае начальства, яно пастаўлена ў такія ўмовы. Дзяржава жыве за кошт вёскі. І аніяк не можа яна наладзіць эканоміку, зрабіць так, каб праца людзей мела добрую аддачу, каб прадуктаў, што яны вырабляюць, хапала і ім, і дзяржаве.

Жнівень сёлета выдаўся цёплы, нават гарачы. Над нізаўскімі палеткамі стаяў пах зжатай збажыны, палыну і пахла яшчэ тым родным, што не апішаш. Гэта водар радзімы, якая заўсёды ў сэрцы. Я ўспамінаю радкі з верша Рыгора Барадуліна, якія таксама зрабіліся ўжо класічнымі:

**Трэба дома бываць часцей,**
**Трэба дома бываць не госцем...**

**Лідзія АРАБЕЙ,**
**пісьменніца.**

**НА ЗДЫМКАХ: на будынку школы ў вёсцы Нізок мемарыяльная дошка ў гонар Кандрата Крапівы; экскурсія ў школьным музеі.**

## ІХ ЛЁС ЗВЯЗАНЫ З УЗБЕКСКАЙ ЗЯМЛЁЙ

Сёння на тэрыторыі незалежнага Узбекістана як свабодныя раўнапраўныя грамадзяне побач з іншымі нацыянальнасцямі пражываюць і беларусы (каля 23 тысяч), лёс якіх па розных прычынах цесна звязаны з узбекскай зямлёй. Прадстаўнікі беларускай дыяспары, сярод якіх ёсць кіраўнікі буйных прамысловых прадпрыемстваў, камерцыйных структур, дзеячы навукі і культуры, плённа працуюць на развіццё эканамічных і культурных адносін паміж абодвума народамі.

Адарваўшыся на доўгія гады ад роднай беларускай зямлі, многія, на жаль, не ведаюць беларускай мовы, гісторыі і культуры Беларусі, хаця жаданне назаўсёды вярнуцца на гістарычную радзіму вялікае. Рост нацыянальнай самасвядомасці, імкненне да кансалідацыі беларусаў, абароны іх правоў выклікалі неабходнасць стварэння ў кастрычніку 1993 года Беларускага культурнага цэнтра з ласкавай назвай "Світанак", які закліканы развіваць і паглыбляць міжнацыянальныя сувязі, вывучаць, захоўваць і прапагандаваць звычаі, традыцыі, культуру, мову, як беларускую, так і ўзбекскую, цесна супрацоўнічаць з іншымі культурнымі цэнтрамі, узаемаўзбагачаючы пры гэтым нацыянальныя культуры ўсіх нацый і народнасцей, што жывуць ва Узбекістане.

# РАДЗІМА ДАЛЁКАЙ НЕ БЫВАЕ

Асноўная функцыя БКЦ — дабрачыннасць: дапамога адзінокім, хворым, састарэлым людзям з ліку беларусаў, якія жывуць ва Узбекістане. Прыклады гэтаму ёсць. Так, па хадайніцтву БКЦ у Рэспубліканскі пансіянат ветэранаў вайны і працы накіравана ў снежні 1996 года Зоя Чарнабаева, беларуска, 1919 года нараджэння. У вучэбна-метадычны цэнтр міждзяржаўнай акадэміі сферы быту і паслуг, створаны і зарэгістраваны ў чэрвені 1995 года, накіравана на вучобу на завочнае аддзяленне на дабрачынных умовах актывістка БКЦ Алена Рэдзіна. Па хадайніцтву БКЦ на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь накіроўваецца моладзь, якой аказана садзейнічанне ў набыцці авія- і чыгуначных білетаў (Аляксей Алесіч, Андрэй Жураў і інш.).

За час існавання БКЦ яго падтрымку і ўвагу адчулі інваліды і ўдзельнікі вайны, адзінокія састарэлыя пенсіянеры, малазабяспечаныя сем'і, якім цэнтр аказвае матэрыяльную дапамогу не толькі для падтрымання жыцця, але і для выезду да сваякоў у Беларусь, наведвае іх дома, у стацыянарах, дапамагае ў набыцці пуцёвак у прафілакторыі і пансіянаты для адпачынку. Людзі адчуваюць, што не абдзелены ўвагай, што ў цяжкую мінуту іх не кінуць у бядзе. А сёння гэта асабліва важна.

БКЦ пастаянна адчувае фінансавую падтрымку спонсараў, зацікаўленых у яго дзейнасці як ачагоў, збіральнікаў і захавальнікаў беларускай культуры, але якія нічога не патрабуюць узамен. Гэта і радуе, і натхняе. У ліку пастаянных актыўных спонсараў можна назваць сумеснае ўзбекска-беларускае прадпрыемства "Узбекмашсервіс" (генеральны дырэктар Уладзімір Макаранка), прадпрыемства "Элком" (генеральны дырэктар Віктар Лабкоў), сумеснае прадпрыемства "Узбелст" (генеральны дырэктар Хасанбай Мансураў), малое прадпрыемства "Вераніка" (генеральны дырэктар Аляксей Клімковіч).

Яны не толькі дапамагаюць цэнтру матэрыяльна, але і самі прымаюць удзел у яго дзейнасці як члены савета. Першым старшынёй БКЦ быў абраны Кірыл Гром, высокаадукаваны чалавек з шырокім кругаглядам, кандыдат філалагічных навук. Дзякуючы яго стараням, цэнтр жыве і сёння, хаця цяжкасцей хапае. Цяпер К. Гром займае пасаду першага сакратара Беларускага пасольства ва Узбекістане, што забірае шмат часу, але для свайго дзецішча — БКЦ заўсёды знаходзіць вольныя мінуты, каб падтрымаць, падказаць, выслухаць, дапамагчы. А старшынёй БКЦ "Світанак" з кастрычніка 1995 года з'яўляецца Сяргей Пратасевіч, беларус, паэт, член Саюза пісьменнікаў Узбекістана. За час яго кіраўніцтва работа БКЦ прыкметна ажывілася: цэнтр прымае самы актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Узбекістана, побач з іншымі культурнымі цэнтрамі з'яўляецца заснавальнікам грамадскага руху "Халк бірлігі" ("Народнае адзінства"), вядзецца сур'ёзная работа па кансалідацыі беларусаў, створаны і пашыраецца банк даных пра іх, рэгулярна праводзяцца культурна-масавыя мерапрыемствы з беларускай дыяспарай — сустрэчы, лекцыі, канцэрты, якія своечасова асвятляюцца ў сродках масавай інфармацыі. БКЦ уносіць пэўны ўклад у далейшае развіццё беларуска-ўзбекскіх сувязей, праводзіць падрыхтоўчую работу па стварэнню таварыства ўзбекска-беларускай дружбы. На сённяшні дзень БКЦ наладзіў цесныя сувязі з аб'яднаннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", у памяшканні цэнтра створана бібліятэка на беларускай мове, арганізаваны калектыў мастацкай самадзейнасці "Бэзавыя зоры" з ліку беларусаў, якія жывуць у Ташкенце. Ён паспяхова выступае ў канцэртных праграмах, што праводзяцца не толькі для беларусаў, але і для людзей іншых нацыянальнасцей, якія пражываюць у Ташкенце. Апрача БКЦ у Ташкенце створаны рэгіянальны культурны цэнтр беларускай дыяспары ў Ферганскай вобласці, кіруе якім Аляксей Клімковіч.

Здавалася б, усё добра, беларусы жывуць, сустракаюцца на святочных вечарах, адпачываюць, радуюцца сустрэчам адзін з адным. Але мы адчуваем, што гэтага мала, таму што вельмі многія зведваюць цяжкасці не толькі ў матэрыяльным, але і ў духоўным плане. Мы маглі б сустракацца часцей, але фонд цэнтра практычна пусты, няма неабходнай літаратуры на беларускай мове, музычных твораў беларускіх аўтараў, беларускай перыёдыкі. А нельга забываць, што беларусы, і асабліва нашы дзеці, якія некалі захочуць вярнуцца на гістарычную радзіму, не павінны ад яе адрывацца, а наадварот, адчуваць яе клопат. Беларускі культурны цэнтр і служыць гэтай мэце. І калі землякі дапамогуць у адраджэнні духоўнасці і культуры, то падзяка будзе шчырай і бязмежнай ад тых беларусаў, якія апынуліся цяпер далёка ад Радзімы.

**Валянціна ЦІТОВА,**
**мастацкі кіраўнік БКЦ "Світанак", паэт-бард, журналіст.**

г. Ташкент.

# БЕЛАРУСЬ — ІНДЫЯ: АДЛЕГЛАСЦЬ — НЕ ПЕРАШКОДА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

*мала. Што яшчэ з'яўляецца візітнай карткай Індыі ў свеце?*

— Самае галоўнае дасягненне Індыі за апошнія пяцьдзесят год — індыйская дэмакратыя. Мяркую, гэта тое, чым ганарацца індыйцы. Калі хочаце, таксама, як выдатнымі якасцямі індыйскага чаю. Індыя — не маленькая і не простая краіна. У працэсе рэфармавання, руху наперад магчымыя і памылкі, але дэмакратыя — несумненны здабытак Індыі.

— *Як можна ацаніць сённяшні стан беларуска-індыйскіх узаемаадносін? Гэта яшчэ толькі "пратакол пра намеры" ці ўжо канкрэтныя, адчувальныя справы?*

— Як вядома, яшчэ ў савецкі перыяд Беларусь з'ўлялася важнай і "моцнай" часткай былога СССР. Ужо тады былі закладзены трывалыя традыцыі культурных і навуковых абменаў паміж нашымі краінамі. І сёння індыйская моладзь едзе да вас, каб атрымаць адукацыю, а навукоўцы абедзвюх краін — для супрацоўніцтва. Па-ранейшаму ў Індыі вельмі любяць ваш балет, музыку.

— *Якія напрамкі беларуска-індыйскіх сувязей бачацца вам сёння найбольш перспектыўнымі?*

— Я бачу шмат магчымасцяў для далейшага развіцця ўзаемных кантактаў і супрацоўніцтва. Напрыклад, Індыі патрэбны ўгнаенні, якія вырабляюцца на Беларусі. У вашай краіны — выдатны навуковы патэнцыял, яна валодае не толькі сучаснымі даследчымі лабараторыямі, але галоўнае, таленавітымі вучонымі. І зараз у Індыі ў Хайдарабадзе рыхтуецца выстава іх дасягненняў. Нам цікавыя прамысловыя тэхналогіі, што ёсць у вас.

— *Але нашы краіны вельмі далёкія адна ад другой па адлегласці. Які сэнс Індыі везці тыя ж угнаенні з Беларусі?*

— Паміж Індыяй і Беларуссю ляжыць няблізкі шлях. Але ў эканамічным, гандлёвым супрацоўніцтве найперш важны кошт выробленай прадукцыі. Тавары, якія прапануе як Беларусь, так і Індыя (у нас, напрыклад, гэта лякарствы), значна таннейшыя за аналагічныя з Францыі ці Германіі. І тады адлегласці не адыгрываюць вялікай ролі.

— *Нямала індыйскіх студэнтаў навучаюцца ў ЗША, заходнееўрапейскіх краінах. Ці не лічыцца адукацыя, атрыманая там, больш прэстыжнай і пажаданай, чым у навучальных установах Беларусі?*

— Атрыманне адукацыі ў ЗША каштуе вялікіх грошай. Ведаю гэта з уласнага вопыту. За навучанне адной з маіх дачок у Злучаных Штатах трэба плаціць дваццаць чатыры тысячы долараў у год. У Беларусі падобнае каштавала б у восем разоў меней!

Я была ў многіх краінах і бачу: індыйскія студэнты, што вучацца ў Беларусі, вельмі і вельмі задаволены. Яны літаральна шчаслівыя: такая цёплая і дружалюбная атмасфера акапяе іх у вас. Калі пасол выказвае задавальненне знаходжаннем у краіне — гэта яшчэ нічога не значыць, бо пасол — асоба прывеліяваная. Але адпаведныя пачуцці з боку простых студэнтаў ужо сведчаць пра многае. Таксама высокі ўзровень беларускай адукацыі — ён не саступае маскоўскаму, пецярбургскаму ці нават брытанскаму.

— *Спадарыня пасол, ці была наша краіна для вас "тэра інкогніта", калі вы ехалі сюды на працу?*

— Шмат год назад я ўбачыла вялізны трактар і яго назву — "Беларусь". Гэта можна лічыць маім першым знаёмствам з вашай краінай. Я ведала Мінск як горад і яго ролю ў другой сусветнай вайне, у барацьбе з нацыстамі. Увогуле, Беларусь уяўляецца мне спакойнай, пяшчотнай, "мяккай" часткай былога СССР — такія яе людзі, такая яе прырода і культура.

— *Пасля таго, як вы пазнаёміліся з нашай краінай, магчыма, пэўныя ўражанні аказаліся нечаканымі, а нешта, можа, нагадала нават радзіму?*

— Калі мы з дачкою ляцелі ў самалёце ўжо над Беларуссю, убачылі бясконцыя лясы, шмат рэк. Прырода здавалася такой чыстай, некранутай, што гэта нават узняло настрой. Магу адзначыць і яшчэ адно маё пастаяннае "здзіўленне" Беларуссю. Тут прыгожыя і вельмі элегантна апранутыя жанчыны. Так-так, сапраўды, нават лепей, чым у Еўропе.

Калі ж казаць пра агульнае... У першую чаргу, я б адзначыла гасціннасць.

— *У беларускіх сродках масавай інфармацыі паведамлялася пра хуткае наведанне Індыі Прэзідэнтам Беларусі. Якія праблемы плануецца абмеркаваць падчас візіту?*

— Праблем паміж нашымі краінамі няма. Гэты візіт меркаваўся яшчэ летась. Але з-за правядзення рэферэндуму вашым Прэзідэнтам быў адкладзены. Зараз мы зноў чакаем яго ў госці. Спадзяёмся, гэта сустрэча дасць новы імпульс беларуска-індыйскім узаемаадносінам, адчыніць вокны і дзверы для больш поўнага і эфектыўнага супрацоўніцтва.

— *Ці задаволена спадарыня пасол тым, як ажыццяўляецца яе дзейнасць і дзейнасць індыйскага пасольства ў Беларусі?*

— Так, я цалкам задаволена. Уся наша дзейнасць, усе мерапрыемствы, што праводзіць індыйскае пасольства, заўсёды знаходзяць на Беларусі разуменне і шчырую падтрымку.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

УСПАМІНЫ БЫЛОГА ПАРТЫЗАНА

# ЭКСКУРСІЯ З ФЁДАРАМ ВЯРБІЦКІМ



Даты бываюць розныя: і радасныя, і сумныя, якія хацелася б забыць, выкінуць са свайго сэрца. Але такога не дадзена, калі сведкам падзей быў сам. Як, напрыклад, супрацоўнік таварыства "Веды" Фёдар Вярбіцкі.

— Нарадзіўся я ў вёсцы Янушкавічы, што на Лагойшчыне, — расказвае пра сябе Фёдар Міхайлавіч. — Пражыў нямала, шмат што бачыў, шмат што запамятаваў. Толькі не магу забыць вайну. У яе полымі загінулі мае родныя, сябры.

У наступным годзе Лагойшчына будзе адзначаць нямала журботных дат. Многія нашы землякі ўспомняць Хатынь. У сакавіку 1993 года споўнілася 50 гадоў, як яе спалілі разам з жыхарамі.

А колькі такіх вёсак на Лагойшчыне! Назвы многіх з іх так і засталіся толькі на абелісках, помніках. У тым 1943 годзе, кажа Фёдар Вярбіцкі, немцы спалілі Рудню (забіта 130 мірных жыхароў), Стайкі, мае Янушкавічы са 150 вяскоўцамі, якіх спачатку пастралялі.

Так ужо атрымалася, што ў гарачы жнівень Фёдар Міхайлавіч правёз нас па сваіх мясцінах. Як толькі павярнулі на Калачы, насупраць Лагойска, пачаліся ўспаміны былога партызана.

— Вось тут, у нізінцы, адступала група чырвоных байцоў. На іх насядалі два нямецкія бронетранспарцёры. І тады нашы байцы прамой наводкай з гарматы расстралялі іх. Было забіта 11 фашыстаў, якія і пахавалі каля дарогі

*БЕЛАРУСЫ Ў ЗАМЕЖЖЫ*

# ЯКАЯ ЯНА, ЭСТОНІЯ?




Раней мы з задавальненнем ехалі ў Эстонію. Многія памятаюць цягнік "Чайка", які хутка пераносіў нас з Мінска да Балтыйскага мора, да сярэдневяковых вежаў і дамоў з дахамі, пакрытымі чырвонай чарапіцай, да млыноў на палях, да Старога Таліна, па вузкіх вулачках якога можна гуляць гадзінамі.

Але прыйшоў другі час. Цяпер у нашым уяўленні Эстонія — гэта візы, таможні, крыўды рускамоўнага насельніцтва. Мне хацелася пазнаёміцца з новай Эстоніяй. Па запрашэнню маіх сяброў, якія былі ўдзельнікамі Другога з'езда беларусаў свету, мы адправіліся ў падарожжа. Хутка атрымаўшы візу ў эстонскім консульстве, выехалі з Мінска. Без асаблівых прыгод даехалі да расійскай таможні, і тут высветлілася, што нейкі чыноўнік на беларускай мяжы не праставіў адзнаку аб уездзе эстонскай машыны на Беларусь. Гэтая памылка каштавала нам некалькіх гадзін згубленага часу і 45 долараў. І такіх машын было некалькі. А далей фармальная праверка на эстонскай мяжы, і праз дзве гадзіны мы ў Таліне. Горад цяжка пазнаць. Вуліцы запоўнены замежнымі турыстамі, старыя будынкі адноўлены і адрамантаваны. Адусюль віднеюцца пад'ёмныя краны. Стары Томас па-ранейшаму на вежы ратушы, а недалёка з'яўляюцца фантастычныя будынкі XXI стагоддзя, паўсюдна таніраванае шкло, прыгожыя магазіны са ступенчатымі фантанамі і зімнімі квітнеючымі садамі. Ніводнага офіса без сучасных камп'ютэраў, офіснай мэблі, еўрарамонту.

Мае сябры жывуць у паркавай зоне Кадрыёрг, дзе размяшчаецца цяпер рэзідэнцыя прэзідэнта. Раней тут жылі заможныя эстонцы. Падчас вайны яны пакінулі свае асабнякі, і за гады савецкай улады двух-, трохпавярховыя драўляныя збудаванні зусім прыйшлі ў заняпад. Цяпер Эстонія вяртае ўласнасць былым уладальнікам, якія адразу ж пачынаюць яе аднаўляць. Але тым, хто жыве ў гэтых дамах, і маім сябрам таксама, не вельмі прыемна ўсведамляць, што дом належыць цяпер шведу, які невядома як можа распарадзіцца сваёй маёмасцю.

Змяненняў у Эстоніі шмат. А пачыналася ўсё ў 1991 годзе, калі краіна выбрала свой самастойны шлях з капіталістычным накірункам развіцця. З 1992 года тут праводзяцца жорсткія рэформы — грашовая, зямельная, адміністрацыйная. Грашовая рэформа прывязала курс эстонскай кроны да нямецкай маркі. Зніклі зберажэнні, кожны жыхар атрымаў на рукі 150 крон (10 долараў). Цяпер крона практычна не ведае інфляцыі, цэны не растуць. Усе атрымалі ваўчары адпаведна свайму працоўнаму ўкладу, пачалася прыватызацыя. Сёння каля 90 працэнтаў прамысловасці Эстоніі знаходзіцца ў прыватных руках. Засталося толькі прадаць электрастанцыі, якія пажадалі купіць амерыканцы. Але ніхто не баіцца распродажу роднай Эстоніі заходнім капіталістам. Тут мноства прадпрыемстваў са 100-працэнтным шведскім, фінскім, амерыканскім, нямецкім капіталам. Новыя гаспадары ствараюць новыя працоўныя месцы, плацяць падаткі, улады зацікаўлены, каб было больш багатых людзей. 28 працэнтаў падаткаў ад фізічных асобаў застаецца ў мясцовым бюджэце, за кошт якіх утрымліваюцца школы, бальніцы, аднаўляюцца помнікі, падтрымліваецца экалогія. Праведзена жыллёвая рэформа. Кватрплату за трохпакаёвую тыпавую кватэру эстонцы плацяць каля 100 долараў у месяц. Гэта ад чвэрці да паловы сярэдняй зарплаты, як і паўсюдна ў Еўропе. Уладальнікі вялікіх кватэр мяняюць іх на меншыя — жорсткія правілы капіталізму. Паўсюдна ў дамах і кватэрах водныя і газавыя лічыльнікі: ніхто не хоча плаціць лішнія грошы.

Магазіны запоўнены высакаякаснымі эстонскімі прадуктамі, вельмі смачныя сыры, ёгурты, рыбныя далікатэсы, усё намнога таннейшае, чым у нас.

Паміж гарадамі Эстоніі выдатныя дарогі, па якіх курсіруюць фінскія камфартабельныя аўтобусы, чысценькія дарагія аўтамабілі. Падзея для эстонцаў — спазненне аўтобуса на 5 хвілін. Мы ехалі на экскурсію ў Пюхцінскі жаночы манастыр. Аўтобус з Санкт-Пецярбурга спазніўся на 10 хвілін (затрымалі на мяжы). Вадзіцель прасіў прабачэння амаль у кожнага пасажыра.

За ўвесь час знаходжання ў Эстоніі мы не адчулі ніякай дыскрымінацыі з боку эстонцаў. На ламанай рускай мове яны ветліва падтрымлівалі размову. Але ж мы прыезджыя. А як пачуваюць сябе нашы беларусы, якія пражылі дзесяткі гадоў у Эстоніі і якія складаюць значную частку рускамоўнага насельніцтва? Тут я пазнаёмілася са славутым эстонскім Законам аб грамадзянстве, які прадугледжвае перш за ўсё экзамен па эстонскай мове. Хто не можа яго здаць, губляе многае: напрыклад, службу ў арміі, працу ў дзяржаўных органах, выбары дэпутатаў эстонскага парламента. Мясцовую ўладу неграмадзяне выбіраць не маюць права, яны ж могуць займацца бізнесам, выязджаць за мяжу, мець маёмасць. Некалькі беларусаў з маіх знаёмых атрымалі эстонскае грамадзянства без экзаменаў — за асобыя заслугі перад Эстоніяй.

Некаторыя беларусы прымаюць расійскае ці беларускае грамадзянства, але такіх няшмат. Астатнія маюць статус іншаземца з шэрым пашпартам. У такі пашпарт уклейваюцца дзве адзнакі: права на часовае жыхарства (пяць гадоў) і права на працу. Гэтыя адзнакі можна атрымаць пасля доўгіх праверак асобы ўладамі, атрымаць іх даволі складана, асабліва былым ваеннаслужачым.

— Я нарадзілася і ўсё жыццё пражыла ў Тарту, — расказвае жонка аднаго з тых, каму адмовілі ў праве на пастаяннае жыхарства. Святлана Бурак — грамадзянка Эстоніі, эстонская мова — яе родная. 15 гадоў назад яе муж Аляксей з Оршы працаваў прапаршчыкам. Звольніўся з арміі ў 1992 годзе, калі расійская армія канчаткова выязджала з Эстоніі. Атрымаў часовае права на жыхарства. У гэтым годзе яму адмовілі ў пастаянным па той прычыне, што ён нібыта з'яўляецца агентам расійскай разведкі і нават шлюб яго фіктыўны. Калі гэтую справу не перагледзяць вышэйшыя ўлады, Аляксею прыйдзецца пакінуць Эстонію назаўсёды.

Падобная сітуацыя і з прадастаўленнем права на працу. Настаўніцы адной з талінскіх школ забаранілі працаваць: высветлілася, што яе былы муж быў некалі ваенным.

Беларусы, як усё астатняе насельніцтва Эстоніі, спадзяюцца толькі на сябе. Прыродны розум, працавітасць, самастойнасць выклікаюць павагу іншых нацыянальнасцей. Многія маюць свае фірмы, магазіны, прадпрыемствы.

У Нарве я пазнаёмілася з дырэктарам вядомай у Эстоніі страхавой кампаніі Валерыем Жураўлёвым, вельмі паважаным чалавекам у горадзе. Ён мае нават вялікі дом на беразе мора, у якім з радасцю прымае гасцей з Беларусі. А яго жонка Валянціна — дырэктар гаспадарчага магазіна, гэта яе асабістая ўласнасць.

Хаміцкі Сяргей — генеральны дырэктар аўдытарскай фірмы, Дземка Уладзімір і Вольга маюць будаўнічую фірму.



У маленькай Эстоніі высілкамі беларусаў ужо створана самастойная этнічная супольнасць. Зберажэнню традыцый сваёй радзімы садзейнічаюць беларускія арганізацыі, якіх тут некалькі. Беларуска-эстонскае згуртаванне ў Йыхві, якім кіруе дырэктар мясцовай мастацкай школы, дэпутат гарсавета, старшыня "круглага стала" культурных таварыстваў нацменшасцей паўночнай зямлі Маргарыта Астраумава, побач з ёю працуюць паэт і вандроўнік Валодзя Дзегцярук, чароўная пявуння Зіна Клыга. У Таліне існуюць культурны беларускі цэнтр "Бацькаўшчына", які ўзначальвае Ніна Савінава, рэдактар беларускай праграмы Эстонскага радыё, культурнае таварыства на чале з Анатолем Лапышавым. Па-рознаму яны арганізуюць сваю працу, але асноўная мэта — развіццё нацыянальнай свядомасці, зберажэнне традыцый, роднай мовы, ідэалаў незалежнасці і яе сімвалаў, памнажэнне культурных набыткаў, пашырэнне ведаў пра Беларусь і сувязей з ёю. Святочнымі бываюць грандыёзныя сустрэчы на традыцыйных "Спатканнях" з беларускімі вядомымі калектывамі, якія ладзіць Савінава.

Акрамя нядзельнай школы, падрыхтоўчых курсаў дапамогі старым людзям, Анатоль Лапышаў арганізуе сустрэчы з народнай артысткай Беларусі Таццянай Мархель, Данчыкам, у Йыхві — гэта паэтычныя вечарыны, народныя святы, мастацкія выставы ў Прыбалтыцы, Фінляндыі, Швецыі, Амерыцы.

І гэта не проста святы — гэта сустрэчы ўсіх беларускіх суполак, абмен думкамі, планамі на будучыню, гэта прыезд беларусаў з розных куткоў Эстоніі і знаёмства іх паміж сабой.

А зусім нядаўна я пазнаёмілася з цудоўнай маладой жанчынай Таццянай Караткевіч, дзякуючы якой сустрэлася з многімі выдатнымі людзьмі з новай беларускай суполкі ў Нарве "Спадчына", ідэя стварэння якой належыць ёй. Яна змагла згуртаваць вакол сябе беларусаў розных поглядаў, зацікавіць маладых бізнесменаў, якія жадаюць працаваць з Беларуссю, нават укладаць сюды свой капітал. Сёння "Спадчына" мае ўжо свой офіс, музей. У Таццяны, якую аднагалосна выбралі старшынёй, вялікія задумы — стварыць беларускую школку, фальклорны гурт, музей старажытнай культуры. Гэта сапраўды апантаны беларускай ідэяй чалавек. Яе дэвіз: "Лепш не словамі, а справамі і настойлівай працай адраджаць нашу мову, гісторыю, культуру, каб кожны адчуваў сябе беларусам". Акрамя працы ў школе і грамадскай працы, Таццяна адна выхоўвае дваіх дзяцей. Яе дачка-прыгажуня піша іконы, запаветная яе мара — напісаць ікону Ефрасінні Полацкай.

І вось наша падарожжа закончылася. Мяжу ў Нарве мы прайшлі пешшу. З моста праз шырокую раку Нарву з сумам развітваешся з гасціннай, утульнай і добраўпарадкаванай Эстоніяй, дзе за ўвесь час я не чула ні выпадкаў забойстваў, ні крадзяжоў, ні рэкету, там гэта ў мінулым.

На эстонскай мяжы застаўся адзіны на ўсю краіну помнік Леніну, які працягнутай рукой паказвае ў бок Расіі, агромністы замак Тэўтонскага ордэна і мае сябрыбеларусы. Праз некалькі хвілін мы ў Расіі — ззаду мяжа з калючым дротам і перад намі абшарпаны, паўразбураны Іван-горад, расійская правінцыя...

**Ніна ПЕТУХОВА.**

**НА ЗДЫМКУ: беларусы Нарвы. Суполка "Спадчына".**

---



Паставілі бярозавыя крыжы, зверху — каскі, на крыжах — дошчачкі. І трэба было здарыцца: па тых мясцінах прайшоў і бацька аднаго з загінуўшых немцаў. Бацьку ўдалося тады адправіць цела сына ў Германію. А ці ж выжыў ён сам?

Няма тых крыжоў, перахавалі далей па Лагойшчыне гітлераўцаў. Быў жнівень, і таму на полі стракаталі камбайны. Здавалася б, нічога не нагадвае аб вайне. Ды не!

— Паглядзіце, як зарос хмызняком, нібы замаскіраваўся на ўзгорку, дот, — заўважыў Фёдар Вярбіцкі. — Далей яшчэ адзін, яшчэ... Тут непадалёку загінуў любімец партызанскага атрада Вадзік, які ўзарваў сябе гранатай, каб не здзекаваліся з яго фашысты.

...Янушкавічы. Спыняемся ля музея баявой і працоўнай славы, дзе стаіць мемарыяльны знак з каменя, на якім напісана, што тут была перададзена спецгрупай "Дзіма" міна Марыі Осіпавай для знішчэння гаўляйтара Вільгельма Кубэ. Дарэчы, на гэтым месцы стаяла хаціна дзядзькі і цёткі Фёдара Вярбіцкага.

Ідзём далей па вёсцы. Час ад часу чуем сумны голас Фёдара Вярбіцкага: "Стаяла хата Логацяў, забілі 7 чалавек, Верамей — 6..."

Усяго фашысты знішчылі сто пяцьдзесят жыхароў.

Вырасла маладое пакаленне. Прыехалі жыць у Янушкавічы людзі здалёк. Фёдара Міхайлавіча амаль што не ведае ніхто. Хіба толькі Васіль Марцінкевіч, таксама былы партызан, франтавік. Пагаварылі, успомнілі і — у дарогу.

Нечакана прыйшлося затрымацца яшчэ на паўгадзіны: у мясцовым магазіне Фёдар Вярбіцкі пазнаў у пажылой жанчыне Веру Саўрыцкую. Яна была яшчэ дзяўчом, калі Фёдар Міхайлавіч пайшоў у партызаны. Колькі ж гадоў не бачыліся?.. Паўстагоддзя!

Слёзы і ўспаміны, просьба зайсці на хвілінку ў хату, фатаграфаванне на памяць... Гаварылі і не маглі нагаварыцца, пералічвалі і называлі родных, сяброў і блізкіх, што загінулі ў вайну.

Адным словам, аб'ехалі мы ў той жнівеньскі дзень шмат якія пункты, дзе другая сусветная пакінула свой страшны след, дзе жывыя ніколі не забудуць спаленыя вёскі і загінуўшых людзей, якія баранілі свой край ад ворага.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**НА ЗДЫМКАХ: мемарыяльны знак у вёсцы Янушкавічы; Фёдар ВЯРБІЦКІ з Верай САЎРЫЦКАЙ; слёзы і ўспаміны, фатаграфаванне на памяць былі ў час гэтай паездкі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ІМЁНЫ І ДАТЫ

**У Магілёве ўрачыста адкрыўся II Міжнародны пленэр па жывапісу, прысвечаны 125-годдзю вядомага пейзажыста, народнага мастака БССР і РСФСР акадэміка В. Бяльніцкага-Бірулі.**

**На пленэр сабраліся мастакі з Беларусі, Расіі, Украіны, Эстоніі, Польшчы, Швейцарыі. Яны ўсклалі кветкі да помніка майстру жывапісу, наведалі яго музей. Удзельнікаў і гасцей пленэра прынялі кіраўнікі вобласці і горада.**

**Праграма пленэра ўключала ў сябе выезд ў Бяльніцкі раён і ў Цвярскую вобласць, дзе жыў і працаваў выдатны пейзажыст, адкрыццё мемарыяльнага знака на месцы яго нараджэння, а таксама карціннай галерэі народнага мастака Беларусі П. Масленікава — аднаго з ініцыятараў правядзення пленэра на Магілёўшчыне.**

**НА ЗДЫМКАХ: у раённым мастацкім музеі імя В. Бяльніцкага-Бірулі; каля бюста мастака ля ўваходу ў музей.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**





## З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ ХВЕДАРА ІЛЬЯШЭВІЧА

13.VIII.38.

Сябра!

Пасылаю Табе 2 вершы з тым варункам, што калі яны будуць друкавацца, то без усякіх папраўак, урэзкаў і абрэзкаў (здаецца, верш "Я прыйшоў да вас зноў" у папярэднім нумары "Калосься" быў трохі абрэзаны з браку мейсца, а другі верш спраўляны, чаму — я таксама дагадваюся). Бачыце, добра спраўляць вершы для тых, хто просіць гэтага ("папраўце тое, значыцца, Паважаны Рэдактар!"), гэта нават павучальна, але я асабіста ня люблю, каб нехта пэцкаўся ў маіх "цяперашніх" вершах. (Зазначаю "цяперашніх", бо шмат старых я б наагул не папраўляў). І другая рэч яшчэ — перад крытыкай і публікай адказывае галава аўтара, а не рэдактара. У нас, праўда, яшчэ крытыкі можна неасаблiва баяцца, бо часта крытыка ў нас — гэта або папляўванне або рэкляма, але ўсё ж... Там, Сябры мае, здаецца, яшчэ мае вершы (напр. "Прыяцелю" можна зьмясьціць на маю адказнасьць). А як вось падабаюцца гэтыя вершы?

Прывітаньні. Цісну руку

Хведар

### Расшумеліся ветры...

**Расшумеліся ветры на прасторы ў полі,**
**На прасторы ў полі, у цёмным лесе-бары.**
**Разрываюцца хмары ў безьбярэжжы-прывольлі,**
**У гэтай далі — бязьмежжы балатоў, азярын.**
**На ўскалошаным полі, на прасторы шырокім**
**Упаду на зямлю я, упаду проста ніц, —**
**Паплыву ў хвалях шуму з-пад палёў беластоцкіх**
**Да дняпроўскіх лугоў, аж да слуцкіх пшаніц.**
**Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах**
**Рассыпаў нехта сьлёзы і ў зморк галасіў.**
**Мне так часта здаецца ў жаўцеючы вечар,**
**Што каменьне на полі — гэта жней бяз сіл.**
**Распляліся іх косы і апалі прыгожа,**
**Вецер з рук абамлелых не разьвеяў ім сны,**
**І яшчэ замірае сьпеў працяжны на пожні**
**З тых гадоў, калі ў жыце ўпалі яны.**
**Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах**
**Беларуская доля зацьвітала няраз,**
**Як адлівам пажараў над аўсамі, над грэчкай**
**Цёмнай ноччу займалася, палымнела зара.**
**Расшумеліся ветры на прасторы ў полі,**
**На прасторы ў полі, у цёмным лесе-бары.**
**Зацьвітала нярааз беларуская доля**
**У гэтай далі бязьмежнай балатоў, азярын.**
**Столькі раніцаў мглістых, столькі восеняў шэрых,**
**У нашых песьнях іржавіць жоўталісьцем сухім.**
**Галасамі вясёлымі з берагу ў бераг**
**Скалыхнем аж да сіні веснавой небасхіл.**
**Трэба ў ветру парывах настроіць нам гусьлі,**
**У жытох яго буйную волю скасіць.**
**З-над палёў, дзе дым сьцелюць Беласток і Супрасьль,**
**Аж да слуцкіх пшаніцаў калосьсе шуміць.**

Янка!

Пасылаю 2 фатаграфіі і пару слоў "аб сабе". З "Анталёгіяй" надта не сьпяшайся. Лепш павоілі, але добра. Ты, як бачу, надта гоніш. Трэба парадзіцца, абдумаць, абмеркаваць. Шмат табе памог бы і Тумаш, і Луцкевіч, і Танк. Не палягай толькі на сябе. З маіх вершаў зьмясьці: "Асеньнюю паэму", "Цягнікі і станцыі" (у "Захварбав[аных] вершах"), "Можа дзіўна, што ў век радыя", "Сталася беднае сэрца ад суму" (у "Веснапесьнях"), "Цяпер у нас засекі поўныя песень" (але ў гэтым вершы, памятуй, папраў, як было: "Цяпер бы нам, хлопцы, кудзёрушкі зьвесіць"), "Цымбалы" і "Расшумеліся ветры".

Парадзься з Тумашам у справе маіх вершаў.

Бывай. Ня гневайся. Матар'ял у "Калосьсе" памаленьку прыгатоўваецца.

Цісну руку

Хведар

Фатаграфію Жылкі трэба абавязковва павялічыць.

Радзіўся ў 1910 г., памру — ?

Першыя мае дзіцячыя "вершы" засталіся за печкай у пакоі, які мы, як бежанцы, наймалі у м. Скапіне ў Варвары Сцепановай Масленікавай. Ня ведаю, ці існуе нейкая псыхолёгічная сувязь між тымі "вершамі" і пазьнейшай маёй творчасцю. Але ўжо ў 1920 г., па вароце на Бацькаўшчыну, я пачаў ізноў сшываць "томікі". Друкавацца пачаў рана, чаго вельмі шкадую. Апошнім толькі часам я пачаў сьвядома падыходзіць да літэратуры і яшчэ ўсё перажываю "крызісы". Так, пісаць трэба або добра, або зусім ня пісаць. Здаецца, цяпер толькі я вызначаюся ўсё больш у напрамку прозы. Жыцьцё нашае цікавае й радаснае і таму буду глыбей яго выярываць. Літэратуры ня кіну. Здаецца — усё.

Жыцьё даводзілася розна, але аб асабістым жыцьці расказываю толькі прыяцелям.

**Хведар Ільяшэвіч.**

**Публікацыя Яніны КІСЯЛЁВАЙ.**

Заканчэнне.
Пачатак у №36—38.

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

Сяргей ГРАХОЎСКІ

### ЗВАНЫ

**Ледзь чутна бомкаюць званы**
**І на капліцы, і ў саборы,**
**За паўстагоддзя і яны**
**Абез'язычалі ад гора.**

**Ледзь чутна клічуць на імшу,**
**На паніхіду і вячэрню,**
**Бо страцілі яны душу,**
**І кат язык ужо не верне.**

**Чароўны голас даўніны**
**Адняты ў неадольным горы.**
**Тапілі срэбныя званы**
**У паўнаводныя азёры.**

**Калі ў рабінавай начы**
**Не заціхалі навальніцы,**
**Часамі чулі асначы**
**Таемны перазвон званіцы.**

**Асуджаныя без віны,**
**Паднятыя з таемных спратаў,**
**Ледзь чутна бомкаюць званы,**
**Не ачуняўшы ад стратаў.**

**І глухнем, і нямеем мы,**
**А урачысты звон прысніцца,**
**Калі пракоцяцца грамы**
**Над апусцелаю званіцай.**

*1994—1996.*

### ЗА МЯЖОЮ — МЯЖА

**Ёсць усяму мяжа,**
**І шчасцю, і пакутам:**
**Цяпло каля лаўжа,**
**Ноч на марозе лютым,**
**Знаходзіць і губляць,**
**І не падлічваць страты,**
**Любіць і даваряць,**
**Баяцца толькі здрады,**
**Не зайважаць, як час**
**Надзеі скарачае,**
**Не крыўдаваць, што нас**
**Не кожны прымячае.**
**З хвілін растуць гады**
**І сыплюцца, як зерне.**
**Іх, як і плынь вады,**
**Ніхто назад не верне.**
**Засланы далягляд**
**Туманам і смугою,**
**Ды не прыйсці назад**
**Дарогаю другою.**

**Якая прыгажосць!**
**А век такі кароткі.**
**Шкада, што кожны — госць**
**Тут, як і нашы продкі.**
**І мне не аднаму**
**Часова свецяць зоры,**
**Бо ёсць мяжа ўсяму**
**У радасці і ў горы.**

*1/V — 97.*

### ВЯРТАННЕ

**Магнітныя буры,**
**Чарнобыльскі чад,**
**І ранак пахмуры,**
**Як воўчы пагляд.**

**Смяротнаю параю**
**Дыхаюць рэкі,**
**Атрутай і караю**
**Робяцца лекі.**

**Ідзі хоць да Бога,**
**У Рым або ў Меку,**
**Не свеціць нічога**
**Нідзе чалавеку.**

**Ён сам баламуціць,**
**Капае, грабе**
**І хутка атруціць**
**Самога сябе.**

**Магнітныя буры,**
**Чарнобыльскі чад.**
**Як з гэтай "культуры"**
**Вярнуцца назад?**

*4/VI—96.*

* * *

**Усё адышло, адзвінела, адпела,**
**Усяго засталіся ўспаміны адны.**
**Шуміць лістапад, то за вокнамі бела,**
**Сузор'і і знічкі амаль не відны.**

**Гайдаюцца ў космасе зорныя шалі,**
**І мне ненадзейны прадказваюць лёс:**
**Здабыткі і цяжкія страты зміншалі,**
**І радасці — з горкімі кроплямі слёз.**

*2/IV—97.*

* * *

**Праходжу часам толькі за платамі**
**І не магу зайсці ў былы бацькоўскі двор:**
**Там босыя сляды любімай мамы**
**Іскрацца на расе да гэтых пор.**

*5/IV—97.*

# НОВЫ ЮРЫДЫЧНЫ ЧАСОПІС

У гэтым месяцы выходзіць першы нумар новага юрыдычнага часопіса "Res nova", што ў перакладзе з лацінскай мовы значыць "Новая справа". Як сказана ва ўступе яго галоўнага рэдактара Дзмітрыя Фомчанкі, "гэта сапраўды "новы", што значыць, першы і пакуль адзіны выключна юрыдычны часопіс, у якім аналіз прававой сітуацыі і асвятленне прававых праблем будзе ажыццяўляцца студэнтамі юрыдычных факультэтаў і вядучымі юрыстамі Беларусі".

Дарэчы, выданне студэнцкіх часопісаў — вядомая агульнасусветная практыка. У прыватнасці, у кожным буйным універсітэце ЗША ёсць свой юрыдычны часопіс, які робяць студэнты, і праца ў такім выданні лічыцца справай вельмі прэстыжнай.

Заснавальнікам выдання з'явіцца Беларуская асацыяцыя студэнтаў права, у якую ўваходзяць навучэнцы каля пятнаццаці як дзяржаўных, так і недзяржаўных юрыдычных ВНУ і факультэтаў з васьмі гарадоў Беларусі. Новае выданне прызначана для саміх студэнтаў-юрыстаў і для выпускнікоў юрыдычных ВНУ. Дарэчы, па задуме стваральнікаў новага выдання яго мэта — павышэнне прававой культуры самага шырокага кола беларускіх чытачоў.

Першы нумар складаецца з дзевяці рубрык, такіх, як, напрыклад, "Юрыст сёння", у якой апублікавана інтэрв'ю з Рычардам Рымісам, былым прадстаўніком Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў у Беларусі, а таксама з Валянцінам Бараўцовым, саўладальнікам юрыдычнай фірмы "Бараўцоў і Салей", Уладзімірам Хвалеем, дырэктарам юрыдычнай фірмы "Траст", членам прэзідыума Міжнароднага арбітражнага суда пры Беларускай гандлёва-прамысловай палаце і іншымі.

Пры рэгістрацыі часопіса было ўказана: матэрыялы ў ім будуць прадстаўлены на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай, што і знайшло адлюстраванне ў першым нумары новага выдання.

Мяркуецца, што часопіс будзе расказваць аб юрыдычных ВНУ рэспублікі, аб сістэме прававой адукацыі ў іншых краінах, публікаваць навуковыя работы ў галіне права, напісаныя студэнтамі і прафесіянальнымі выкладчыкамі.

Што тычыцца палітычнай накіраванасці новага часопіса, то, па словах Дзмітрыя Фомчанкі, "Res nova" задумваўся як прававы, а не палітычны часопіс. "Мы не будзем дзяліць аўтараў па іх палітычных поглядах, і галоўным крытэрыем каштоўнасці матэрыяла і падставай для яго публікацыі будзе не палітычная накіраванасць, а навуковая і інфармацыйная напоўненасць", — сказаў ён.

Тыраж часопіса — паўтары тысячы экземпляраў, перыядычнасць — адзін нумар у два месяцы, у перспектыве мяркуецца зрабіць часопіс штомесячным.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*ПІНСКУ 900 ГАДОЎ*





# СТАЛІЦА БЕЛАРУСКАГА ПАЛЕССЯ

**Сталіца беларускага Палесся — горад Пінск адзначыў сваё 900-годдзе. Менавіта дзевяць стагоддзяў таму Пінск упершыню згадваецца ў "Аповесці мінулых гадоў".**

**Але не толькі паважны ўзрост прымушае ўважліва прыглядзецца да мастацкіх і гістарычных набыткаў аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі. Пінск яшчэ з часоў Турава-Пінскага княства служыў развіццю і ўмацаванню роду чалавечага, даваў прытулак славянам.**

**Уздоўж Прыпяці на ўсход праз Пінск наладжваліся сувязі з Падняпроўем, Прычарнамор'ем, Візантыяй. На захад і паўночны захад ішлі шляхі па Піне і Ясельдзе. Блізкасць да воднага шляху "з варагаў у грэкі" надавала Пінску аблічча гандлёвага горада, дзе рана атрымалі развіццё не толькі рамёствы, але і старажытнае мастацтва. Абразок з каменю "Хрыстос-Эмануіл" XII стагоддзя, створаны разьбяром па дрэву папом Ананіем, творы дойлідаў XIV-XV стагоддзяў даносяць да нас водгукі жыцця продкаў. Праз баявыя подзвігі і крывавыя бітвы, шматпакутнае жыццё даведваемся мы пра іх. Пра сівую даўніну нагадваюць купалы францысканскага касцёла і капліцы, мураваныя, пакрытыя дахоўкай і бляхай дамкі. З Пінскам шчыльна звязаны лёсы і імёны Адама Нарушэвіча, Франца Савіча, Якуба Коласа, Яўгеніі Янішчыц. Тут праславіліся Канстанцін Астрожскі, Рамуальд Траўгут, Фёдар Казубоўскі, Васіль Корж, Ціхан Калінін. Тут пачыналі жыццёвы шлях выдатныя навукоўцы, даследчыкі, архітэктары, першапраходцы. Каля 60 з іх з'яўляюцца дактарамі навук. Свае радкі прысвячалі гораду заханыя ў яго Фёдар Глінка, Мікалай Ляской, Дзмітрый Булгакаў, Марыя Канапніцкая, Уладзімір Караткевіч...**

**У юбілейныя дні ў Пінск прыехала многа гасцей. Разам з пінчанамі знамянальную падзею ў жыцці горада адзначалі прэм'ер-міністр рэспублікі Сяргей Лінг, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, дэлегацыі з розных рэгіёнаў нашай краіны, з Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Ізраіля, дыпламаты, вучоныя, ураджэнцы тутэйшых мясцін. Здавалася, усе 130 тысяч жыхароў горада выйшлі на яго вуліцы, каб паўдзельнічаць у святе.**





**НА ЗДЫМКАХ: былы калегіум езуітаў XVII стагоддзя. Пасля рэстаўрацыі тут размясціліся музей беларускага Палесся і дзіцячая харэаграфічная школа; больш за 20 гадоў у Пінску існуе харэаграфічная школа; у Пінску жыве многа ветэранаў вайны і працы, людзей, якія ўзнаўлялі разбураны ў час вайны горад. Адна з іх — 78-гадовая пенсіянерка Настасся ГЛУШЧАНКА; у музеі беларускага Палесся захоўваюцца старадаўнія дакументы, што тычацца Пінска. Сярод іх — дароўная грамата пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраслававіча (XVI стагоддзе) і ўказ польскага караля Яна II ад 10.03.1689 года з пячаткай.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## ЗАМАЛЁЎКІ ПРЫРОДЫ

### СВЯТА

Наліваюцца чырванню і схіляюцца ў лесе рабіны. З кожным днём лета абцяжарвае іх галіны ўсё больш і больш.

Ноччу будзе залева. Яна пройдзе шырока, грукочучы па галінах і чашчобах. Па лагчынах, у лесе, на ўзлеску заблішчыць вада. Усё набрыняе вадой — кожны ліст, каліна ці дарога.

І рабіны схіляцца яшчэ ніжэй, будуць чакаць світання. Ранічкай, калі сонца яшчэ не ўстане, у неба тонка прыўздымецца белы світанак — пад рабінамі водбліскам успыхне заранак. Зачырванее, аж будзе балюча вачам.

Світанак зацягне аблокамі, паплывуць над лесам хмары. Але свята ў лесе адбылося: быў заранак.

### КАРЫСЦЬ

Ніжняя шырокая лапіна елкі ў пошуках святла абагнула ствол бярозы і, вызірнуўшы на той бок, знайшла там маленькую ялінку і засланіла яе ад сонечных апёкаў: яна шукала святла для сябе, а выйшла карысць маленькай дачцэ.

### ПАВЕВЫ ВОСЕНІ

Якая цудоўная раніца: і раса, і грыбы, і птушкі. Гэта ўжо канец жніўня. На блакітным небе паміж залатых дрэў не разумееш, што творыцца: ці то вецер змятае з дрэў лісце, ці ў стайкі сабраліся дробныя жоўценькія птушачкі і нясуцца ў вырай. Вецер — клапатлівы гаспадар. За лета ён усюды пабывае, скрозь управіцца і ў самых густых зарасцях лесу дастане сваім венікам лісце. Яно, падаючы на зямлю, шэпчацца, развітваецца назусім з дрэвамі. У іх жа так заўсёды: калі адарваліся ад роднай галінкі, дык развітваюцца назаўсёды і з белым светам. Бо ўжо загінулі.

Бярозкі асыпаюць сваё золата на лапіны елак, на мурашнікі. Я нават бачу бляск ігліцы на сцяжынцы ў праменнях заходзячага сонца і ўсё іду, любуюся, іду без канца па лясной сцяжыне, і лес мне становіцца такім жа, як мора, а паляна ў лесе, як востраў. На востраве гэтым цесным гуртам стаяць хвоі. Пад імі я сеў адпачыць. У кожнай хвоі, аказваецца, усё жыццё наверсе. Там, у багацці шышак, гаспадарнічае вавёрка. Унізе ж пад хвоямі змрочна, толькі падае на зямлю шалупінне ад шышак.

Калі карыстацца разумнай увагай да жыцця і спачуваць кожнай жывой істоце, можна і тут чытаць займальную кнігу: вось хаця б пра гэтыя семкі хвой, якія ацярушваюць на зямлю вавёркі. Некалі адно такое семка ўпала пад бярозу на яе голыя карэнні. Хвойка, атуленая бярозай ад апёкаў сонца і лютых маразоў, пачала вылузвацца з гэтага семка. Але яе карэньчыкі там, у зямлі, сустрэліся з густа пераплеценымі карэннямі бярозы. Тады хвойка сваімі карэньчыкамі намацала вольнае месца ў зямлі і моцна зачапілася за глебу. Цяпер гэтая хвойка абагнала бярозу і стаіць побач з ёю са сплеценымі карэннямі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1330. Падпісана да друку 22.9.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.